# Знішчаць хімічную зброю?

*Расія мяркуе знішчыць усе 40 тыс. тонаў сваёй хімічнай зброі да 2012 году. Як перадае карэспандэнтка РИА «Новости», пра гэта журналістам паведаміў у аўторак намеснік сакратара Рады бяспекі РФ Алег Чарноў.*

Выступаючы на брыфінгу перад нарадаю чальцоў Рады бяспекі Расіі па падрыхтоўцы да знішчэння запасаў хімічнае зброі, Чарноў нагадаў, што Расія ў 1997 годзе ратыфікавала Міжнародную канвенцыю аб распрацоўцы, захаванні і знішчэнні хімічнае зброі. Згодна з гэтым дакументам, яна мусіла б знішчыць сваю хімічную зброю, як і іншыя краіны, да 2007 году. Аднак, па словах намесніка сакратара Рады бяспекі РФ, «дзеля шэрагу аб'ектыўных, найперш арганізацыйных і фінансавых прычын, гэтыя тэрміны для Расіі выглядаюць нерэальнымі».

Дасюль на гэтыя мэты, адзначыў Чарноў, вылучалася не больш за 5% ад запатрабаваных сродкаў, таму да 2000 году практычна нічога зроблена не было, інакш кажучы, прадугледжанага канвенцыяй 20-працэнтнага знішчэння хімічнае зброі да 2002 году Расія не правядзе.

У цэлым на знішчэнне расійскае хімічнае зброі трэба каля 3 млрд. даляраў, паведаміў намеснік сакратара Рады бяспекі РФ. 30% гэтае сумы, па словах Чарнова, мяркуецца «рэальна атрымаць з-за мяжы».

У лік дзяржаваў-донараў, якія ўжо далі згоду фінансаваць расійскую праграму ў рамках канвенцыі, уваходзяць Вялікабрытанія, Нямеччына, Італія, ЗША, Канада, Нідэрланды, Нарвегія, Швецыя, Швейцарыя, Фінляндыя і Еўрасаюз.

У гэтай сувязі, адзначыў Чарноў, Рада бяспекі РФ разам з зацікаўленымі федэральнымі ведамствамі падрыхтавала скарэктаваную праграму па знішчэнні хімічнае зброі ў РФ, а таксама прапановы па ўнясенні паправак у расійскі графік знішчэння хімічных боепрыпасаў. Аднак, як ён патлумачыў, любыя змены тэрміналу павінна яшчэ ўхваліць Арганізацыя па забароне хімічнае зброі (АЗХЗ).

«МЗС РФ ужо накіравала адпаведную заяўку», — дадаў Чарноў.

Намеснік сакратара Рады бяспекі РФ паведаміў, што хімічная зброя ў Расіі захоўваецца «ў сямі арсеналах» у шасці рэгіёнах Расіі — у Кіраўскай, Пензенскай, Курганскай, Саратаўскай, Бранскай абласцях і ў Удмуртыі. Знішчаць запасы хімічнае зброі плануецца на аб'ектах, якія цяпер будуюцца ў Шчучым (Курганская вобласць), Горным (Саратаўская вобласць) і Камбарцы (Удмуртыя).

Як адзначыў Чарноў, Расія «заявіла 24 аб'екты па вытворчасці хімічнае зброі, з якіх 10 падлягаюць знішчэнню, а астатнія канверсуюцца». Ён таксама адзначыў, што шэсць з названых аб'ектаў ужо знішчаны і на гэта атрыманы належныя міжнародныя сертыфікаты.

**Вольга СЯМЁНАВА**

**АНКЛАЎ**

## Непрызнанае Прыднястроўе зноў абрала Смірнова

У мінулую нядзелю ў Прыднястроўі адбыліся прэзідэнцкія выбары. Дзеючы прэзідэнт Ігар Смірноў абраны на трэці тэрмін. Яму процістаялі два супернікі — былы мэр Бендэраў Том Зяновіч і лідэр апазіцыйнай Народнай партыі ўлады Аляксандр Радчанка. Усе трое заяўлялі пра падтрымку з боку Расіі. У выбарах узялі ўдзел 65% выбаршчыкаў, Смірноў сабраў 80% галасоў.



Малдова не прызнала за Прыднястроўем права на правядзенне выбараў, называючы іх нелегітымнымі і вінавацячы Смірнова ў кіраванні карумпаванай рэспублікай. МЗС Малдовы перад выбарамі распаўсюдзіла ноту, у якой заклікала ўсе краіны «ўстрымацца ад удзелу назіральнікаў у выбарах, каб не надаваць ім законнасці».

АБСЕ адмовілася дасылаць сваіх назіральнікаў за галасаваннем, бо рускамоўны анклаў Малдовы не прызнаецца міжнароднай супольнасцю за самастойную дзяржаву. Але Расію і Украіну іх адмова не засмуціла. З гэтых краін у Прыднястроўе прыехалі 36 назіральнікаў, якія лічацца міжнароднымі.

Пасля перамогі малдаўскага прэзідэнта Уладзіміра Вароніна і падпісання расійска-малдаўскай дамовы аб стратэгічным партнёрстве стала рэальнай перспектыва выхаду Малдовы з працяглага палітычнага крызісу. Расія, — чаго ад яе не чакалі, — лічыць, што выбары прэзідэнта ў Прыднястроўскай рэспубліцы з гледзішча міжнароднага права не маюць пад сабой законнай асновы. Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра МЗС РФ В.Трубнікаў. Ён нагадаў, што Прыднястроўская рэспубліка — «самаабвешчаная тэрыторыя», і гэта не дазваляе казаць пра легітымнасць выбарчай кампаніі.

**Ігар БУЛЬБОКА**

## Тэрарысты капітулявалі

Баевікі арганізацыі «Аль-Каіда», якія базаваліся ў раёне Тора-Бора, капітулявалі. Пра гэта ў аўторак паведамлю журналістам палявы камандзір Мухамад Заман, які ўзначальвае адзін з трох пуштунскіх атрадаў, што з 5 снежня вядуць наступ у гэтым раёне.

Паводле яго ных словаў, здача зброі баевікамі пачнецца а 8-й раніцы па мясцовым часе ў сераду.

«Яны павінны выйсці з пячораў, спусціцца з гор і здаць нам зброю», — сказаў Заман, але ўмовы капітуляцыі не раскрыў.

Цяпер баевікі «Аль-Каіды» знаходзяцца на схілах і ў пячорах горнага масіву Спінгхар, па якім амерыканская авіяцыя на працягу шасці дзён наносіла паветраныя ўдары.

Як перадае карэспандэнт *РИА «Новости»*, атрады пуштунаў пад камандаваннем Замана, Хазрата Алі і Захіра агульным лікам да 3 тыс. байцоў у аўторак поўнасцю занялі раён Тора-Бора за 40 км на поўдзень ад Джалалабаду і Мелаві за 30 км на поўдзень ад гэтага гораду, дзе знаходзіліся баевікі «Аль-Каіды».

Заман заявіў таксама, што да сённяшняга дня быў упэўнены, што галава «Аль-Каіды» знаходзіцца ў раёне Тора-Бора або паблізу яго, але «цяпер ужо так не думае». Атрады пуштунаў абшукалі 15 пячор і бункераў і два тунэлі падземнага комплексу, але не знайшлі там ні Усамы бін Ладэна, ні іншых кіраўнікоў арганізацыі «Аль-Каіда».

## Пярэчаць бонскім пагадненням

Паўночны альянс пакіне свае войскі ў Кабуле нават пасля таго, як туды будзе ўведзены міжнародны міратворчы кантынгент. Пра гэта паведаміў прадстаўнік міністэрства абароны Афганістана Мухамед Хабіл у інтэрв'ю карэспандэнту *France Presse*.

Хабіл таксама сказаў, што міратворчым войскам будзе забаронена патруляваць вуліцы гораду: «Яны могуць патруляваць толькі тыя раёны, дзе будзе знаходзіцца новая адміністрацыя. Астатнюю тэрыторыю Кабулу будуць ахоўваць нашыя войскі».

Падобныя сцверджанні супярэчаць заключаным у Боне пагадненням. Апошнія кажуць: «усе ўдзельнікі перамоваў у Афганістане бяруць на сябе абавязак вывесці вайсковыя падраздзяленні з Кабулу і іншых гарадскіх цэнтраў, у якіх будуць размешчаныя войскі ААН».

# Забяспечыць камфорт прэзідэнту

*Новы спікер Савету Федэрацыі, раней нікому не вядомы сенатар з Санкт-Пецярбургу, Сяргей Міронаў у суботу вечарам у праграме «Зеркало» чарговы раз выказаў меркаванне, што тэрмін прэзідэнцтва ў Расіі – 4 гады – на яго думку, замалы. Звычайна год-паўтара новаабраны кіраўнік дзяржавы толькі ўваходзіць у курс справаў, потым спрабуе выканаць тыя абяцанні, якія даваў выбарцам, а там, глядзіш, – наступныя выбары, да якіх трэба прыдумаць справаздачу пра зробленае і новыя абяцанкі. Са словаў спікера, прэзідэнту не пашкодзіў бы яшчэ хоць год.*



Праўда, ужо цяпер Міронаў трохі стрымаў свой запал і болей не грозіцца, што верхняя палата выступіць з ініцыятывай унясення зменаў у Канстытуцыю. Ён кажа пра тое, што павелічэнне прэзідэнцкага тэрміну – пытанне не аднаго дня, і наагул «не факт, што гэта будзе зроблена ў рамках прэзідэнцтва Уладзіміра Пуціна», хоць новы спікер быў бы не супраць гэтага. Спыняе, відаць, тое, што для ўнясення зменаў у Канстытуцыю трэба праводзіць рэферэндум, а гэта, паводле словаў Міронава, «вельмі дарагая справа».

Між тым агучванне такой ідэі стала неспадзяванкаю для ўсіх. Нечаканасцю ж, па сутнасці, стала тое, што агучыў яе новы спікер верхняй палаты, да таго ж пецярбуржац. Змяніць Канстытуцыю іншыя палітыкі прапаноўвалі і дагэтуль, відаць, зандуючы глебу. Віцэ-спікер Дзярждумы ад Саюзу правых сілаў Ірына Хакамада, напрыклад, лічыць заяву Міронава «праверкай настрояў у грамадстве перад вынясеннем пытання на шырокае абмеркаванне» і не выключае, што Савет Федэрацыі выступіць з адпаведнай ініцыятывай. У сваю чаргу лідэр СПС Барыс Нямцоў упэўнены, што прэзідэнт Пуцін не будзе спрабаваць утрымацца пры ўладзе больш за два прэзідэнцкія тэрміны і мяняць дзеля гэтага Канстытуцыю.

Катэгарычна супраць зменаў Асноўнага закону краіны выказаліся левыя. Спікер Дзярждумы Генадзь Селязнёў, напрыклад, сумняецца ў мэтазгоднасці павелічэння прэзідэнцкага тэрміну і лічыць, што чатырох гадоў цалкам дастаткова, каб праявіць сябе. Але ў Міронава з'явіліся і прыхільнікі. Апошнімі днямі на карысць падаўжэння прэзідэнцкага тэрміну ў Расіі паспелі выказацца пасол РФ ва Украіне Віктар Чарнамырдзін і прэзідэнт Фонду эфектыўнай палітыкі Глеб Паўлоўскі. Яны ўсё болей націскаюць на тое, што працяглы прэзідэнцкі тэрмін – гэта стабільнасць, а праціўнікі аперуюць тэрмінам «застой».

Знамянальна тое, што абмеркаванне гэтага пытання праходзіць напярэдадні Дня Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі.

Ужо з'явіліся формулы павелічэння тэрміну прэзідэнцтва. Паводле адных прагнозаў, ён можа быць падоўжаны на адзін год, паводле іншых – кіраўнік дзяржавы можа атрымаць паўнамоцтвы на тэрмін да сямі гадоў, як у Францыі, якая, дарэчы, ужо адмовілася ад гэтага. Цікава, што ў адміністрацыі прэзідэнта абвяргаюць магчымасць перагляду Асноўнага закону краіны, спасылаючыся пры гэтым на Уладзіміра Пуціна, які лічыць патэнцыял Канстытуцыі 1993 году вычарпаным. Тым не менш, у Пуціна ёсць магчымасць працягнуць тэрмін сваіх паўнамоцтваў, не мяняючы пры гэтым Канстытуцыі, – папросту ўзяць удзел у наступных прэзідэнцкіх выбарах. Гэта будзе значна прасцей, чым збіраць Канстытуцыйны сход і праводзіць рэферэндум.

**Вольга ШОРЫНА**

## Эканомія па-польску

У Польшчы вырашылі зэканоміць бюджэтныя сродкі, скараціўшы датацыі палітычным партыям.

Дзеля гэтага ўрад краіны прапанаваў парламенту скараціць датацыі палітычным партыям на 75%, а кампенсацыю выдаткаў на правядзенне выбарчае кампаніі – на 50%. Мяркуецца, што гэта дасць эканомію каля 80 млн. злотых ($20 млн.). Найбольшую незадаволенасць прапанову ўраду выказваюць дробныя партыі, якія ў першы перадвыбарчай гонкі бралі ў банках крэдыты, мяркуючы аддаць іх пасля атрымання дзяржаўных кампенсацыяў. Як вядома, у Польшчы дзейнасць палітычных партыяў фінансуецца дзяржаваю, а партыям забаронена прымаць грошы ад фірмаў і прадпрыемстваў. Памер датацыі для кожнае партыі залежыць ад колькасці галасоў, атрыманых ёю на выбарах, а кампенсацыя выдаткаў на выбарчую кампанію – ад колькасці атрыманых дэпутацкіх мандатаў і фінансавай справаздачы па рэальных выдатках.

**news.lt**

## Паўночная Карэя рыхтуецца да вайны з ЗША



*Reuters* паведамляе: Паўночная Карэя папярэдзіла ў нядзелю Злучаныя Штаты, што ў выпадку нападу, пра магчымасць якога ўрад ЗША ўжо неаднаразова заяўляў, амерыканскія войскі атрымаюць «неверагодны адпор».

«Вызначэнне КНДР як патэнцыйнага аб'екта для нападу пасля сканчэння вайны ў Афганістане прымушае ўвесь карэйскі народ знаходзіцца ў поўнай баявой гатоўнасці і ахвяравацца сваімі жыццямі дзеля абароны радзімы», — адзначаецца ў заяве, апублікаванай цэнтральнай партыйнай газетай «Радонг Сінмун».

«КНДР — не Афганістан. КНДР гатовая да абароны і наступу», — сцвярджаецца ў газеце.

Прадстаўнікі міністэрства абароны Паўднёвай Карэі не змаглі пракаментаваць такую заяву і пацвердзіць, што на тэрыторыі суседняй краіны маюць месца якія-колькек перасоўванні войскаў.

Апошнімі тыднямі паўночнакарэйскія СМІ пачалі масаваную антыамерыканскую кампанію, крытыкуючы ход вайны з тэрарызмам і заклікаючы да ўмацавання абараназдольнасці краіны ў адказ на пагрозы з боку ЗША.

## Ізраіль не прыняў прапановы тэрарыстаў

Ізраіль адмовіўся прыняць прапанову палестынскіх ваенізаваных груповак спыніць агонь з 10 снежня да канца Рамадану — месяца мусульманскага посту. Прадстаўнік ізраільскіх сілаў бяспекі назваў гэтую прапанову «бессэнсоўнай» і заявіў, што Ізраіль не мае іншага выбару, апроч як рэалізоўваць свае права на самаабарону да таго часу, пакуль улады палестынскай аўтаноміі не пачнуць змагацца з тэрорам і арыштоўваць тэрарыстаў.

«Мы даем ворагу час, каб ён спыніў забойствы, разбурэнні і бамбаванне, – гаворыцца ў сумеснай заяве чатырох палестынскіх узброеных груповак, звязаных з арганізацыямі ФАТХ, ХАМАС і «Ісламскі джыхад». – На гэты перыяд мы адмовімся ад узброеных атакаў у межах акупаванай у 1948 годзе тэрыторыі».

На паседжанні «вузкага» кабінету бяспекі пры прэм'ер-міністру Ізраіля Арыэлі Шарону было прынятае рашэнне працягваць ваенныя аперацыі на заходнім беразе Іардану і ў сектары Газа «ў адказ на хвалю палестынскага тэрору». Перад тым палестынцы здзейснілі два тэракты. У Хайфе тэрарыст-камікадзе падарваў сябе, параніўшы 29 ізраільцянаў. Пазней на заходнім беразе палестынцы абстралялі ізраільскі аўтамабіль і паранілі кіроўцу. А ў панядзелак ізраільскія верталёты адназлі ў адказ ракетны абстрэл палестынскіх пазіцыяў, у раёне Хеўрону была абстраляна палестынская машына.

**Павел РЭЗНІК**

## Абяцанага заходняга крэдыту Украіна чакае даўно

Першы віцэ-прэм'ер Украіны А. Дубіна вылецеў у Лондан на перамовы з Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР), каб абмеркаваць умовы, на якіх будзе фінансавацца дабудова энергаблокаў Хмяльніцкай і Ровенскай АЭС. Шэсць гадоў бясплённа прачакаўшы абяцаных заходніх крэдытаў, Л.Кучма падчас нядаўняга візіту ў Маскву прапанаваў Расіі паўдзельнічаць у дабудове энергаблокаў на Ровенскай і Хмяльніцкай АЭС, адзначыўшы, што Украіна лічыць непрымальнымі для сябе ўмовы крэдытавання гэтых праектаў, выстаўленыя Захадам.

Змяніць пункт гледжання Украіны Захад наўрад ці зможа, хоць, пэўна, будзе рабіць такія спробы. 6 снежня прэзідэнт Украіны Л.Кучма на супольнай прэс-канферэнцыі з федэральным канцлерам Нямеччыны Г.Шрэдэрам у чарговы раз заявіў, што лічыць непрымальнымі некаторыя ўмовы Еўрабанку, прызнаўшы пры тым, што дасягненне адпаведных дамоўленасцей – гэта пытанне перамоўнага працэсу. Паводле словаў Кучмы, «ніхто не адмаўляецца» ад перамоваў з ЕБРР па дабудове блокаў.

У адказ Шрэдэр паведаміў, што ЕБРР гатовы фінансаваць дабудову, аднак дзеля гэтага трэба выканаць шэраг умоваў, сярод якіх – павышэнне тарыфаў на электраэнергію. У сувязку з гэтым Украіна вырашыла дабудоўваць блокі без удзелу еўрапейскіх арганізацыяў — яна «знайшла другіх партнёраў». У Маскве ўрады дзвюх краін дамовіліся, што пагадненне пра ўдзел Расіі ў дабудове блокаў РАЭС і ХАЭС можа быць падпісана ўжо ў снежні бягучага году. А ў першым квартале 2002 году бакі гатовыя падпісаць крэдытнае пагадненне пра фінансаванне дабудовы энергаблокаў. Аб'ём расійскага крэдыту ў наступным годзе можа скласці каля $60 млн.

**ukraine.ru**

# Нобелеўская лекцыя

## Генеральнага сакратара ААН Кофі Анана

**Вашы Вялікасці, Вашы Каралеўскія Высокасці, Чальцы Нарвежскага Нобелеўскага Камітэту, пані і панове!**

Сёння ў Афганістане народзіцца дзяўчынка. Маці будзе туліць яе да сябе, карміць яе, супакойваць і песціць — як і любая маці ў любой краіне свету. Гэтыя найпрацейшыя рысы чалавечае натуры супольныя для ўсяго чалавецтва. Але нарадзіцца дзяўчынкай у сённяшнім Афганістане – значыць пачаць жыццё на адлегласці ў шмат вякоў ад таго дабрабыту, якога дамаглася малая драбніца з усяго чалавецтва. Гэта азначае жыць у такіх умовах, якія шмат хто з тых, хто сядзіць тут у залі, палічылі б бесчалавечнымі.

Я кажу пра дзяўчынку ў Афганістане, але з тым жа поспехам я мог бы згадаць пра немаўля ў Сьера-Леоне — хлопчыка ці дзяўчынку. Сёння няма такіх людзей, якія б не ведалі пра бездань, якая дзеліць па ўсім свеце багатых і бедных. Сёння ніхто не можа сцвярджаць, што не ведае, колькі гэтая бездань каштуе бедным і абяздоленым, — а яны ж вартыя людское годнасці, асноўных свабод, бяспекі, ежы і адукацыі не менш за любога з нас. Але цану такога расколу мусяць плаціць не толькі яны. У канчатковым рахунку, іх сплочваем усе мы – Поўнач і Поўдзень, багатыя і бедныя, мужчыны і жанчыны ўсіх рас і рэлігій.

Сёння сапраўдныя межы пралягаюць не паміж дзяржавамі, а паміж усемагутнымі і бездапаможнымі, вольнымі і скаванымі, прывілеяванымі і прыніжанымі. Сёння ніякія муры не могуць адгарадзіць гуманітарныя крызісы альбо крызісы ў галіне правоў чалавека ў адной частцы свету ад крызісаў нацыянальнае бяспекі ў другой яго частцы.

Навукоўцы кажуць: свет прыроды настолькі кампактны і ўзаемазалежны, што матылёк, узмахнуўшы крыльцамі ў трапічных лясах Амазонкі, можа выклікаць магутную буру на другім канцы свету. Гэты прынцып вядомы пад назваю «эфект матылька». Сёння мы, магчыма, глыбей, чым калі раней, усведамляем, што ў свеце чалавечых памкненняў – добра гэта ці кепска – таксама існуе свой «эфект матылька».

Мы ўвайшлі ў трэцяе тысячагоддзе цераз браму агню. Калі сёння, пасля жахаў 11 верасня, мы пагледзімо пільней і далей, чым дагэтуль, то ўбачым, што чалавецтва непадзельна. Новыя пагрозы не ведаюць розніцы паміж расамі, нацыямі або рэгіёнамі. Новае адчуванне безабароннасці зазнае кожны, незалежна ад багацця і грамадскага становішча. І стары і малы цяпер нашмат глыбей усведамляе, што і ў горы і ў радасці нас лучыць адна повязь.

На заранку XXI ст., ад пачатку жорстка пазбаўленага ўсялякіх надзеяў на непазбежнасць руху да міру і дабрабыту ўва ўсім свеце, гэтую новую рэальнасць ужо немагчыма ігнараваць. Трэба глядзець праўдзе ў вочы.

Дваццатае стагоддзе было, магчыма, самым жахлівым за ўсю гісторыю чалавецтва: яно прынесла незлічоныя канфлікты, невымоўныя пакуты і неймаверныя злачынствы. Раз за разам адна група або нацыя абрынала на другую нязмерны гвалт, часам кіруючыся ірацыянальнай нянавісцю і падазрэннямі або нястрымнаю пыхаю і прагаю ўлады і грошай. У адказ на гэтыя катаклізмы кіраўнікі ўсяго свету ў сярэдзіне стагоддзя сабраліся разам, каб з'яднаць свае нацыі як ніколі раней шчыльна.



Быў створаны форум – Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, — на якім усе нацыі могуць аб'яднаць намаганні, каб сцвердзіць годнасць і вартасць кожнага чалавека і забяспечыць усім народам мір і развіццё. Тут дзяржавы змаглі аб'яднацца, каб мацаваць прававую дзяржаву, разумець і задавальняць патрэбы бедных, стрымліваць людскую жорсткасць і прагавітасць, захоўваць рэсурсы і характво прыроды, забяспечваць роўныя правы як мужчын, так і жанчын і дбаць пра бяспеку будучых пакаленняў...

На маю думку, у XXI ст. місія Арганізацыі Аб'яднаных Нацый будзе вызначацца новым, глыбейшым усведамленнем святасці і годнасці кожнага чалавечага жыцця, незалежна ад расы і рэлігіі. Гэта прымусіць нас глядзець па-над дзяржаўнымі межамі, а таксама глыбей за ўзровень дзяржаваў або сацыяльных групаў. Мы павінны як ніколі раней засяродзіць усе нашы намаганні на паляпшэнні ўмоваў жыцця канкрэтных мужчын і жанчын, якія даюць дзяржаве або нацыі багацце і самабытнасць. Мы павінны пачаць з тае самае афганскае дзяўчынкі-немаўляці, прызнаўшы, што ўратаваць адно жыццё – гэта значыць уратаваць саму чалавечнасць.

У апошнія пяць гадоў я часта нагадваў, што Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пачынаецца словамі: «Мы, народы». Не заўсёды прызнаецца, што гэтыя «мы, народы» складаюцца з паасобных людзей, чые асноўныя правы надта ж часта прыносіліся ў ахвяру меркаваным інтарэсам дзяржавы або нацыі.

Генацыд пачынаецца з забойства аднаго чалавека – не за тое, што ён зрабіў, а за тое, хто ён ёсць. Кампанія «этнічнае чысткі» пачынаецца з таго, што адзін сусед паўстае на другога. Галеча пачынаецца тады, калі адно-адзінае дзіця пазбаўляюць яго падстававага права на адукацыю. Тое, што пачынаецца з няздольнасці забяспечыць годнасць аднаго жыцця, надта ж часта абяртаецца катастрофаю для цэлых нацыяў.

У гэтым новым стагоддзі мы павінны перадусім зразумець, што мір патрэбны не толькі дзяржавам або народам, але і кожнаму з людзей, якія іх складаюць. Суверэнітэт дзяржаваў нельга больш выкарыстоўваць як шчыт, каб прыкрываць ім грубыя парушэнні правоў чалавека. Мір павінен стаць рэальным і адчувальным у штодзённым жыцці кожнага, хто ў патрэбе. Да міру належыць імкнуцца найперш таму, што ён – перадумова годнага і бяспечнага жыцця кожнага чальца людскогое сям'і.

Правы паасобнага чалавека маюць не меншую значнасць для імігрантаў і меншасцяў у Еўропе і на Амерыканскім кантыненце, чым для жанчын у Афганістане або для дзяцей у Афрыцы. Яны роўна падстававыя для бедных і для багатых, яны неабходныя для бяспекі і развітых краін, і тых, што развіваюцца.

З гэтага разумення ролі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у наступным стагоддзі вынікаюць тры ключавыя прыярытэты на будучыню: вынішчэнне галечы, прадухіленне канфліктаў і развіццё дэмакратыі. Толькі ў свеце, пазбаўленым галечы, усе мужчыны і жанчыны могуць найпаўней раскрыць свае здольнасці. Толькі там, дзе шануюць правы паасобнага чалавека, рознагалоссі палагоджваюцца палітычнымі сродкамі і мірным шляхам. Толькі ў дэмакратычным асяроддзі, дзе цэняцца разнастайнасць і дыялог, льга забяспечыць самавыяўленне і самакіраванне асобы, а таксама гарантаваць свабоду аб'яднанняў...

У свеце, насычаным сродкамі вайны, а надта часта яшчэ і словамі вайны, Нобелеўскі камітэт стаў найважнейшым змагаром за мір. На жаль, прэмія міру — рэдкасць у гэтым свеце. Бальшыня нацыяў мае помнікі або мемарыялы войнам, бронзавыя статуі на ўшанаванне гераічных бітваў, трыумфальныя аркі. А мір не мае свайго параду, не мае пантэону перамогі.

Затое ў яго ёсць Нобелеўская прэмія – выраз надзеі і мужнасці, які мае унікальную вагу і аўтарытэт. Толькі зразумеўшы і задаволіўшы патрэбу людзей у міры, годнасці і бяспецы, мы – прадстаўнікі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый – можам спадзявацца апраўдаць гонар, аказаны нам сёння, і ператварыць у жыццё мары заснавальнікаў Арганізацыі. Гэта і ёсць тая шырокая місія міру, якую супрацоўнікі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый здзяйсняюць кожны дзень у кожным кутку Зямлі...

Думка пра тое, што ёсць адзіны народ, які валодае праўдай, адзіны адказ на беды ўсяго свету, адзіны спосаб задаволіць патрэбы чалавецтва на працягу ўсяе гісторыі, наносіла вялізную шкоду – асабліва цягам мінулага стагоддзя. Аднак сёння, нават на фоне міжэтнічных канфліктаў, якія працягваюцца ва ўсім свеце, расце разуменне таго, што разнастайнасць чалавецтва – гэта і рэальнасць, якая робіць дыялог неабходным, і сама аснова для такога дыялогу.

Мы разумеем як ніколі раней, што кожны з нас напоўніцу варты годнасці і пашаны, такой патрэбнай усім людзям. Мы прызнаем, што мы носьбіты многіх культур, традыцый і ўспамінаў, што ўзаемная павага дазваляе нам вывучаць іншыя культуры і вучыцца ў іх, і што мы робімся дужэйшымі, калі яднаем чужое з добра знаёмым.

У кожнай вялікай веры і традыцыі льга знайсці такія вартасці, як талерантнасць і ўзаемнае паразуменне. Напрыклад, Каран кажа нам: «Мы стварылі вас мужчынам і жанчынаю і зрабілі вас народамі і плямёнамі, каб вы ведалі адно аднаго». Канфуцый заклікаў сваіх прыхільнікаў: «Калі дзяржава квітнее, кажы смела і дзейнічай смела, калі дзяржава збілася з тропу, дзейнічай смела, а кажы ціха». Згодна з іудзейскаю традыцыяй, пастулат «узлюбі бліжняга твайго як самога сябе» лічыцца самой сутнасцю Торы.

Гэтая ж думка адлюстраваная і ў хрысціянскім Евангеллі, якое таксама вучыць нас любіць нашых ворагаў і маліцца за тых, хто гоніць нас. Індусаў вучаць, што «праўда адна, але мудрацы даюць ёй розныя імёны». Будызм таксама вучыць людзей дзейнічаць са спагадай ува ўсіх сферах жыцця.

Кожны з нас мае права ганарыцца сваёй верай або сваёю спадчынай. Аднак уяўленне пра тое, што «наша» абавязкова супярэчыць «іхняму», — і памылковае, і небяспечнае. Яно спарадзіла няспынную варажнечу і несканчоныя канфлікты, у выніку чаго людзі ўчынялі найвялікшыя злачынствы ў імя вышэйшае сілы.

Гэта нельга лічыць непазбежным. Людзі розных рэлігіяў і культураў жывуць поруч амаль ува ўсіх краінах свету, і ў бальшыні з нас ёсць такія супольныя рысы, якія родняць нас з зусім адрознымі групамі. Мы можам любіць сябе такімі, як мы ёсць, без нянавісці да ўсяго іншага і да ўсіх іншых. Мы можам квітнець ува ўлонні ўласных традыцыяў і ў той жа час можам вучыцца ў другіх і шанаваць іх вучэнні.

Аднак гэта будзе немагчымым без свабоды рэлігіі, самавыяўлення, аб'яднанняў, а таксама без фундаментальнае роўнасці ўсіх перад законам. Сапраўды, мінулае стагоддзе навучыла нас: там, дзе годнасць чалавека топчуць альбо пагражаюць ёй, — дзе грамадзян пазбаўляюць іх падстававага права выбіраць свой урад альбо права рэгулярна мяняць яго, — занадта часта наступалі канфлікты, а расплочваліся за гэта ні ў чым не вінаватыя мірныя жыхары, чыё жыццё раптам абрывалася, а ўсё атачэнне разбуралася.

Перашкоды, якія паўстаюць на шляху дэмакратыі, маюць малое дачыненне да культуры або рэлігіі, затое нашмат большае — да прагі ўладу маючых любым коштам захаваць свае пазіцыі. Гэта праява зусім не новая і не абмежаваная адною нейкай часткаю свету. Людзі ўсіх культур цэняць свабоду выбару і адчуваюць патрэбу ўплываць на рашэнні, якія закранаюць іх жыццё.

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, куды ўваходзяць амаль усе дзяржавы свету, засноўваецца на прынцыпе роўнае вартасці ўсіх людзей. Гэта першае набліжэнне да прадстаўнічае ўстановы, якая дбала б пра інтарэсы ўсіх дзяржаваў і ўсіх народаў. З дапамогаю гэтага універсальнага, цалкам неабходнага інструменту людскога прагрэсу дзяржавы могуць служыць інтарэсам сваіх грамадзян, прызнаючы супольныя інтарэсы і імкнучыся забяспечыць іх супольнымі намаганнямі. Несумненна, якраз таму Нобелеўскі камітэт заяўляе, што ён «у гэты першы год стагоддзя хоча абвясціць, што адзіны рэальны шлях да глабальнага міру і супрацоўніцтва пралягае праз Арганізацыю Аб'яднаных Нацый»...

Як вы памятаеце, я пачаў свой выступ з дзяўчынкі, якая нарадзілася сёння ў Афганістане. Нягледзячы на тое, што яе маці зробіць усё магчымае, каб ахаваць і зберагчы яе, існуе адзін шанец з чатырох, што гэтая дзяўчынка не дажыве да свайго пятага дня нараджэння. Ці дажыве яна да гэтага дня – гэта толькі адно з выпрабаванняў нашай супольнае людскасці, нашай веры ў нашу асабістую адказнасць за нашых братоў і сясцёр. Але гэта адзінае выпрабаванне, якое мае значэнне.

Памятайце пра гэтую дзяўчынку, і тады нашы шырэйшыя мэты – барацьба з галечай, прадухіленне канфліктаў або пазбаўленне ад хваробаў – не будуць здавацца далёкімі або недасяжнымі. Больш таго, гэтыя мэты будуць здавацца вельмі блізкімі і цалкам дасяжнымі – як і павінна быць. Бо пад покрывам дзяржаваў і нацыяў, ідэяў і моваў хаваецца лёс паасобных людзей у патрэбе. Адказ на іх патрэбы і будзе місіяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у новым стагоддзі.

СУПОЛЬНАСЦЬ

# Новая мадэль ААН

**Рыхард фон ВАЙЦЗЕКЕР, былы прэзідэнт Федэратыўнай Рэспублікі Германіі**

Калі ў 1945 годзе была ўтворана ААН, галоўнай мэтай яе стварэння было прадухіліць развязванне трэцяй сусветнай вайны. І таму падчас яе стварэння быў арганізаваны адзін орган, які меў уладныя паўнамоцтвы, – Рада Бяспекі, у якую ўвайшлі самыя магутныя ў вайсковым сэнсе дзяржавы. На парадку дня Рады Бяспекі была і застаецца ўлада і ўрэгуляванне крызісаў, галоўным чынам з ужываннем вайсковых сродкаў. Аднак сёння рэальная пагроза для найбольшай часткі насельніцтва Зямлі ідзе з боку з'яваў, з якімі мы дагэтуль амаль не сутыкаліся: галечы, голаду, росту насельніцтва, міграцыі, забруджання навакольнага асяроддзя ды іншых. Для таго, каб ААН магла адолець гэтыя праблемы, трэба правесці змены непасрэдна ў яе структуры.

Неабходна стварыць дзве новыя рады, кожная з якіх будзе мець уладныя паўнамоцтвы, супастаўляльныя з паўнамоцтвамі Рады Бяспекі, – Раду па сацыяльных пытаннях і Эканамічную Раду.

Дзеля чаго патрэбны гэтыя новыя органы? Свет не можа жыць без правілаў, і ён не можа прасоўвацца наперад у вырашэнні найвастрэйшых праблемаў нашага стагоддзя без акрэсленых правіл і структураў, якія б займаліся ўрэгуляваннем міжнароднага права.

Паколькі такіх арганізацый пакуль не існуе, ААН павінна іх стварыць. Безумоўна, пэўныя правілы, такія, як правіла ўвядзення гандлёвых санкцый, існуюць і сёння, напрыклад, у рамках СГА. Аднак гэтыя правілы – усяго толькі адзінкавыя крокі ў гэтым кірунку: крокі, зробленыя ў галіне свабоднага гандлю, прымальныя ў сацыяльным і экалагічым плане, і далёкія ад пратэкцыянізму, які часта практыкуецца заможнымі краінамі. І ўвогуле трэба ўвесці болей такіх правіл, якія б прызнаваліся ўсім светам, каб усеагульныя намаганні, накіраваныя на барацьбу з галечай, хваробамі і масавай міграцыяй, сталі больш паслядоўнымі, прадказальнымі, а галоўнае – эфектыўнымі.

У нас ёсць Рымскі статут Міжнароднага крымінальнага суду; мы ствараем новую інструкцыю, паводле якой грамадзянскія арганізацыі змогуць больш эфектыўна ўдзельнічаць у працы ААН; у нас сёння ёсць вялікая кааліцыя, якая аб'ядноўвае значна больш краін, чым *NATO*, і якая змагаецца з тэрарызмам. Я рады, што адной з рэакцыяў на падзеі 11 верасня была відавочная змена стаўлення ЗША да ААН. Але вельмі важна, каб змены такога кшталту – а менавіта наданне рэальнай улады структурам ААН – прынеслі большы плён.

У наш небяспечны час людзі ўсёй Зямлі мусяць салідарызавацца. Адным са спосабаў прадэманстраваць сваю салідарнасць было стварэнне вялікай кааліцыі, якая цяпер змагаецца з тэрарызмам. Але салідарнасць трэба таксама афіцыйна прызнаць у рамках рэальных уладных структураў ААН. Скліканне Генеральным сакратаром ААН форуму «Дыялог цывілізацый» – гэта толькі пачатак такога працэсу. А трэба зрабіць значна болей. Стварэнне радаў па сацыяльных і эканамічных пытаннях будзе вялізным крокам у правільным кірунку.

Выкладзеныя тут у агульных рысах ідэі я спрабаваў прэзентаваць не толькі Генеральнай Асамблеі ААН, але і сталым сябрам Рады Бяспекі. Мяне таксама запрасілі выкласці гэтыя ідэі Сенату ЗША. Аднак ніводная з гэтых дыскусій не прынесла дагэтуль істотных вынікаў.

І ўсё ж з цягам часу ЗША мусяць прызнаць неабходнасць існавання ААН, а Рада Бяспекі і яе сябры ўбачаць, што стварэнне новых органаў улады ў ААН – гэта не стварэнне канкурэнтаў, а адзіны сродак для людзей усяго свету, каб разам супрацьстаяць незлічонай колькасці сацыяльных і эканамічных праблем, з якімі яны сутыкаюцца.

# Кватэрнае пытанне – клопат жыцця

*Калі вам прыспелі пярэбары ў новую кватэру, але вы лянуецеся ці не пераносіце ўсялякіх звязаных з яе пакупкай бюракратычных працэдур, ад пошуку і астатніх турботаў вас з задавальненнем вызваліць (даляраў за 600) агенцтва нерухомасці.*

Кошты на квадратны метр у мінскіх новабудоўлях зараз 290-500 даляраў. З разлікам ад 320 даляраў за кв.м. можна без праблемаў прыдбаць кватэру ў цагляным доме. Пажыўшы ў звычайным доме з хранічна брудным пад'ездам і часта п'янымі і хамаватымі суседзямі, многія пакупнікі, марачы пра спакой і ўтульнасць, схільныя не эканоміць на новым жытле і аддаюць перавагу крыху даражэйшым дамам, недасягальным для згаданага кантынгенту навасёлаў.



Людзям, не абмежаваным у сродках, можна без цяжкасцяў купіць кватэру ў новым мікрараёне «Васняцова», што на беразе Свіслачы побач з Серабранкай. У тамтэйшых рознакаляровых дамах двухпакаёвая кватэра з кухняй на 12 метраў і з сістэмай ацяплення ад фірмы *BOSCH* «пацягне» на 25 тысяч даляраў, а трохпакаёўка – да 40 тысяч. У мікрараёне «Малы гай», непадалёку ад вуліцы Русіянава, дзе прывабныя дамкі пабудаваныя па англійскіх праектах, кошт квадратнага метра – 500 даляраў.

Большасць з нас на такія дамкі можа паглядзець хіба толькі здалёк. І колькі грошай мусіць назбіраць сям'я з чатырох чалавек, каб перабрацца з аднапакаёўкі ў «двушку», людзі звычайна вылічваюць, арыентуючыся на кошты ў газетных абвестках. Гэта другасны рынак жылля. Кошты тут сціплейшыя, але ўсё роўна «чыстых» купляў ці продажаў кватэр мала. Часцей людзі прадаюць свае старыя кватэры, якія іх ужо не задавальняюць, каб дадаць грошай і набыць большыя.

Яшчэ год таму кошты на нерухомасць значна знізіліся – прапановы на другасным рынку кватэраў у 5 разоў перавышалі попыт на іх. Знаёмства з цяперашнімі коштамі выклікае часта толькі дэпрэсію. Трэба прывыкаць да таго, што вартую аднапакаёўку, таннейшую за 10 тысяч даляраў, у сталіцы знайсці будзе цяжка. За 15 тысяч даляраў ужо не тое што трох-, нават двухпакаёвую кватэру трэба вельмі пашукаць. 300 даляраў – гэта сярэдні кошт аднаго квадратнага метру кватэры. У Заводскім раёне ён даляраў на 50 таннейшы, а ў цэнтры гораду, у Цэнтральным ці Савецкім раёнах, наадварот, даляраў на 50-70 даражэйшы.

Адбіваецца на расцэнках і тып сценаў. Панельныя дамы ўзводзяцца дагэтуль толькі дзеля гонкі за эканоміяй і колькасцю квадратных метраў. У асноўным яны будуюцца для льготнікаў, якія карыстаюцца дапамогай дзяржавы. Укладаць грошы ў панельную нерухомасць з эканамічнага пункту гледжання нявыгадна, бо тэрмін эксплуатацыі такога дома каля 50 гадоў. А цагляны дом можа жыць значна даўжэй. Усе сцены ў «панельках» лічацца нясучымі, таму магчымасці перапланіроўкі там абмежаваныя. Панельныя сцены маюць яшчэ адзін мінус: яны захоўваюць цяпла ўдвая-ўтрая менш, чым таго патрабуюць сучасныя нормы.

З прычыны нізкіх даходаў насельніцтва лідэрства па папулярнасці сярод мінчукоў трымаюць адна- і двухпакаёвыя кватэры. Амаль 80% попыту прыпадае на іх. Быў час, калі нават так званыя «хрушчоўкі» і «сталінкі» раскуплялі з задавальненнем: хай малыя і нязручныя, але самыя танныя – ад 6,5-7 тысяч даляраў.

Нават на такую мінікватэру сярэдняй беларускай сям'і, дзе муж з жонкай атрымліваюць па 100 даляраў, «зацягнуўшы паясы» і адкладаючы на кватэру, дапусцім, па 50 даляраў штомесяц, збіраць трэба гадоў 12. Тут і з'яўляецца пытанне: што рабіць?

Здаецца, наблізіць час наваселля дапамогуць ільготныя крэдыты. Менавіта льготныя, бо звычайны банкаўскі крэдыт (выдаецца пад 40% ці 55% гадавых у залежнасці ад даходаў сям'і на 15 год) – кабала, якая застанецца яшчэ і дзецям.

Ільготны крэдыт складае 75% неабходных сродкаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) кватэры, астатнія 25% вы павінны ўнесці за кошт сваіх зберажэнняў. Некаторым грошай не хапае і на гэта, таму ад крэдыту яны мусяць адмаўляцца, спадзеючыся на бязвыплатныя субсідыі. Іх выдаюць адзін раз у жыцці, і можа выпасці так, што агульнае сумы хопіць на тое, каб набыць самую дробную і сціплую кватэрку, не дакладаючы з уласных сродкаў ні рубля.

Усю суму крэдыту плюс 10% ад сумы, якая налічваецца штогод за карыстанне крэдытнымі сродкамі, трэба вярнуць цягам 20 гадоў. Штомесяц з вашага сукупнага сямейнага даходу банк можа забіраць не больш за 50%. Перад тым як выдаць грошы, банк падлічвае, ці хопіць вашых даходаў, каб пагасіць той крэдыт. Калі не – у разлік бярэцца даход вашых паручальнікаў. Даюць крэдыты, прычым як ільготны, так і звычайны (пад вялікія працэнты), толькі тым, хто стаіць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў. Адно што для атрымання крэдыту пад 10% гадавых трэба патрапіць у адмысловы спіс, які штогод складае мясцовая адміністрацыя, размяркоўваючы выдаткованыя з бюджэту сумы.

Часта выходзіць так, што цягам году тыя сумы абясцэньваюцца і іх ужо ніяк не ўдаецца расцягнуць на запланаваную колькасць шчаслівых навасёлаў. Напрыклад, сёлета ў Мінску замест 870 сямей, як планавалася, у новыя кватэры змогуць засяліцца толькі 653. Для астатніх наваселле адкладаецца на наступны год. А гэта людзі, якія чакаюць кватэры не менш за 12 гадоў (стаўшы на чаргу да пачатку 1990 году).

Тая ж сітуацыя і з маладымі сем'ямі. Калі яны станавіліся на ўлік, як мінімум адзін з сужонкаў быў маладзейшы за 31 год. І толькі праз 12 гадоў, дасягнуўшы 40-гадовай мяжы і выгадаваўшы дзяцей, якія, мабыць, таксама займелі ўжо свае маладыя сем'і, гэтыя муж з жонкай трапляюць у спіс «маладых людзей», якім выпадзе атрымаць нарэшце льготны крэдыт.

Дарэчы, трэба адзначыць, што для набыцця ўжо пабудаванай кватэры ў Мінску ўзяць ільготны крэдыт нельга. Для тых, хто будуецца на вёсцы, умовы атрымання льготнага крэдыту мякчэйшыя: з уласных сродкаў трэба аплаціць толькі 5% ад сумы жылля, астатнія 95% бярэ на сябе банк. Крэдыт выдаецца на 40 гадоў пад 5% гадавых. Некаторыя мінчукі, палічыўшы пасёлкі, што знаходзяцца ў ваколіцах Мінска, сельскай мясцовасцю, спадзяваліся былі пабудавацца ў гэтых досыць прэстыжных і зручных месцах за кошт суперільготных «сялянскіх» крэдытаў. Аднак дзяржава многія такія гарадкі аднесла да «амаль Мінска», а таму на хітрыкі мінчукоў не паддалася.

Прымаючы рашэнне знізіць валявымі захадамі на 20% кошт жылля, якое будуецца пры дапамозе дзяржавы, прэзідэнт вырашыў зэканоміць бюджэтныя сродкі за кошт будаўнічай галіны. Кошты аднаго квадратнага метра цяпер пільна кантралююцца дзяржаўным вокам і на лістапад у сярэднім яны былі ўсталяваныя на ўзроўні 279.000 рублёў (186 даляраў). Пры такіх умовах двухпакаёўку ў панельным доме зусім рэальна можна пабудаваць за 10 тысяч даляраў.

З 1996 году каля 72 тысяч беларускіх сем'яў адгулялі наваселле дзякуючы льготным крэдытам. Яшчэ дзяржаўнай дапамогі чакаюць 560 тысяч беларускіх сем'яў, 140 тысяч з якіх стаяць у чэргах па гэтую дапамогу больш за дзесятак гадоў.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Будуць рэформы, будуць і крэдыты

250 мільёнаў даляраў крэдытаў можа атрымаць Беларусь ад Сусветнага банку на ахову здароўя насельніцтва, праблемы Чарнобылю і сацыяльны сектар, калі палепшыць эканамічныя ўмовы гаспадарання. Пра гэта заявіў, будучы напрыканцы мінулага тыдня ў Гомелі, дырэктар аддзелу Беларусі і Украіны ў Сусветным банку Люка Барбонэ.

Візіт Люка Барбонэ і экспертаў у абласны цэнтр, сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады, бізнесоўцамі, грамадскімі арганізацыямі, навукоўцамі Інстытуту радыялогіі, жыхарамі вёскі Свяцілавічы Веткаўскага раёну праходзіў у рамках выпрацоўкі стратэгіі супрацоўніцтва Сусветнага банку з Беларуссю. Гэта датычыць найперш аховы здароўя, экалогіі і сацыяльнага сектару.

— Праект, які мы збіраемся распачаць у сакавіку, — паведаміў Люка Барбонэ, — будзе непасрэдна звязаны з барацьбой з сухотамі і СНІДам. Увесь пакет праектаў, якія мы наважылі ажыццявіць ў бліжэйшыя 3 гады, ацэньваецца ў 140 мільёнаў даляраў. Мы таксама казалі ўраду, што гатовы павялічыць гэтыя асігнаванні да 250 мільёнаў даляраў, калі будуць значна палепшаны эканамічныя ўмовы. У наступным годзе мы будзем сачыць за тым, як выконваюцца абяцанні ўраду зрабіць прыватны бізнес больш рэнтабельным і аблегчыць умовы ягонага існавання.

Старшыня аблвыканкаму Аляксандр Якабсон хацеў бы бачыць удзел уплывовай фінансавай структуры ў перааснашчэнні лячэбных установаў новым абсталяваннем, ажыццяўленні праекту рэканструкцыі асвятлення ў школах, развіцця вытворчасці ў чарнобыльскіх раёнах і нават у справе падтрымкі аграпрамысловага комплексу.

Для гамельчукоў з'явілася нечаканасцю чуць ад высокага госця і ягоных экспертаў, што акурат на паляпшэнне ўмоваў у 600 беларускіх школах Сусветны банк яшчэ летам адпусціў 20 мільёнаў даляраў. Аднак з-за бюракратычных затрымак сродкі дагэтуль знаходзяцца ў Мінску.

Што да падтрымкі аграпрамкомплексу, то, як выказаўся госць, яны з экспертамі «не ўбачылі інавацыйнага мыслення ў гэтай галіне». У суседняй Украіне яно ёсць, і там аграпрамкомплекс атрымаў паўмільярда даляраў інвестыцый.

Да пачатку сакавіка каманда экспертаў, якая працавала ў рэгіёне, зробіць канчатковыя высновы. Гаворка ідзе пра падтрымку сістэмы аховы здароўя, маніторынг, лепшае размеркаванне рэсурсаў на чарнобыльскія мэты, пра тэхнічную дапамогу, якая станоўча адаб'ецца на эканамічным развіцці пацярпелых раёнаў, малога і сярэдняга бізнесу.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

# Беларусь і капіталісты

## *Геапалітычны ўплыў беларускай урадавай праграмы*

Учора, стомлены працай, я сядзеў пры кампутары і задуменна назіраў, як на экране манітора целяпаўся індэкс Доў-Джонса. Было падобна, што далягляды амерыканскай эканомікі сваім колерам зраўняліся з перспектывамі змагання за Вольную Беларусь. Трэнд, нібы кропля бруднай вады на лабавым шкле, спаўзаў кудысьці ўправа, на дол. Жыццё з кожнай хвілінай сумнела.

Ажно раптам тэндэнцыя змянілася. Тэрмінова скантактаваўшыся са сваім заакіянскім земляком і калегам д-рам Г.Каўзам, я даведаўся пра сенсацыйную прычыну біржавога катаклізму: інфармацыйныя агенцтвы паведамілі, што дэпутаты ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Беларусі ўхвалілі праграму дзейнняў ураду на 2001-2005 гады.

Уласна кажучы, не само ўхваленне, а той стыль, у якім яно было зроблена, скалануў інвестараў і абудзіў іхную амаль згаслую ініцыятыву. Паводле звестак, атрыманых з інфармаваных крыніцаў вучонымі-аналітыкамі, якія адсочваюць дзейнасць драпежнікаў Уол-стрыту, за праграму было 58 чалавек, супраць – 22.

Дазволю сабе пракаментаваць канцэптуальныя высновы гэтых спадароў.

Па-першае, паплечнікі беларускага адзінаўладніка атрымалі самы фундаментальны адлуп з 1994 году: адмоўна паставіліся да ўрадавых прапановаў 28% парламентароў з тых, што выразна акрэслілі сваё стаўленне да пытання.

Па-другое, перспектывы адзінай валюты (супольнай грашовай адзінкі г.зв. Саюзу Беларусі і Расіі) прызнаныя нулявымі.

Па-трэцяе, Беларусь да 2005 году не ўвойдзе ў зону еўра.

Па-чацвёртае, жыццёвы ўзровень у Беларусі будзе істотна зніжацца.

Высновы 2,3 і 4 грунтуюцца на паведамленні прэм'ер-міністра пра тое, што ў 2005 годзе сярэдняя зарплата ў нас будзе блізка 250 даляраў. Менавіта даляраў, а не рублёў ці еўра. Тым часам сітуацыя ў барацьбе з тэрарызмам і нафтаздабычай не абяцае істотнага ўзмацнення даляра.

Па-пятае, Беларусь не будзе пагражаць еўрапейскаму рынку харчавання, бо ў найбліжэйшыя гады сельская гаспадарка паднімецца на чвэрць і не дасягне тых вышыняў, што абяцалі камунякі ў сваёй харчовай праграме.

Па-шостае, пакупніцкія магчымасці (ёмістасць) беларускага рынку істотна падвысяцца, бо прыбыткі большай часткі насельніцтва вырастуць амаль утрая. Бо сярэдняя пенсія складзе 112,5 даляра, супраць 45-ці ў сёлетнім кастрычніку.

Названыя стратэгічныя змены гарантуюць аптымальны транзіт з Еўразіі неабходнай дэмакратычным дзяржавам сыравіны, органаў для трансплантацыі і вясёлых дзевак. Гэты фактар і абумовіў рынкавы эксцэс 7 снежня.

Мяне асабіста, як патрыёта, дзівіць не пазіцыя дзеячоў з нетраў Лэнглі і берагоў Патамаку, а фанабэрыстасць 22 землякоў, якія так доўга дурылі нас і выдавалі сябе за простых людзей.

Цалкам падзяляю думку аднаго высокапастаўленага ўдзельніка абмеркавання ўрадавай праграмы, які так пракаментаваў падзею: «Ну, публіка! Абяцаеш, абяцаеш – а ім усё мала».

**Ю.Л.**

ЭКСПРЭС

# Прагнозы, пазыкі, разлікі

### Заканадаўчыя прыярытэты верхняй палаты

На адным з апошніх паседжанняў Прэзідыума Савета Рэспублікі быў вызначаны спіс эканамічных законапраектаў, якія неабходна распрацаваць у першую чаргу. Як паведамілі ў верхняй палаце парламенту, у гэтым спісе законапраекты «Аб дзяржаўнай рэгістрацыі юрыдычных асобаў», «Аб падаткаабкладанні суб'ектаў малога прадпрымальніцтва», «Аб ліцэнзаванні відаў дзейнасці», «Аб абароне правоў юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў пры правядзенні дзяржкантролю», «Аб адзіным ладзе ўсталявання і ўжывання эканамічных санкцый», «Аб гарантаванні банкаўскіх укладанняў фізічных асобаў» і інш. Акрамя таго, па прапанове пастаяннай Камісіі па эканоміцы вызначаны заканадаўчыя акты, якія патрабуюць карэктываў. Сярод іх законы «Аб супрацьдзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі», «Аб дзяржаўнай падатковай інспекцыі РБ» і «Аб падатках на прыбыткі».

### Інтэлектуальная маёмасць у Беларусі не ўспрымаецца сур'ёзна

Як сведчыць шэраг найбуйнейшых міжнародных кампаній, аб'ём падробленай прадукцыі, што рэалізуецца ў Беларусі, складае каля 37%. Купляючы нізкаякасныя лекі, напоі і прадукты харчавання, людзі рызыкуюць сваім здароўем. Фальшыўкі, якія завалілі рынак, падрываюць давер да вядомых таварных знакаў. Вялікія сродкі, недаатрыманыя ў выглядзе падаткаў, пошлін і іншых збораў, страчвае і дзяржбюджэт. Змяншаецца аб'ём інвестыцый, бо капіталы ідуць туды, дзе абарона аўтарскіх правоў арганізавана больш надзейна. Сітуацыя можа палепшыцца толькі тады, калі нашы чыноўнікі ўсвядомяць, што рынкавая эканоміка патрабуе сур'ёзнага прызнання інтэлектуальнай маёмасці. Парушэнні правоў на яе — адна з самых складаных перашкод на шляху гандлёвых зносін з краінамі Еўрасаюзу.

### Аказваецца, надвор'ем таксама можна гандляваць

Адна з лонданскіх біржаў з 10 снежня пачынае гандаль ф'ючарсамі на надвор'е ў Еўропе. Гэты від каштоўных папер уводзіцца на падставе частых скаргаў шматлікіх кампаній на змены надвор'я, якія ўплываюць на эфектыўнасць працы. Перш за ўсё, як мяркуе кіраўніцтва біржы, гэты інструмент зацікавіць сельскагаспадарчыя і энергетычныя кампаніі, якія жадаюць абараніць сябе ад тэмпературных «выбрыкаў». На біржы будуць каціравацца шэсць кантрактаў на базе сярэдняй дзённай тэмпературы ў Лондане, Парыжы і Берліне. Звычайна такія ф'ючарсы фармуюцца на падставе колькасці дзён у каляндарным перыядзе, у якія тэмпература дасягнула зададзеных загадзя парогавых значэнняў. Плата па кантракце залежыць ад таго, колькі дзён было цяплейшых (альбо халаднейшых) у параўнанні з усталяваным парогам. У апошнія некалькі гадоў гэткія інструменты набываюць усё большую папулярнасць у ЗША, сумы па гэтых кантрактах даволі вялікія, што падштурхоўвае далейшае развіццё.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Мастакі і цэнзура

*10 снежня, у Міжнародны дзень абароны правоў чалавека, у Мінску на вуліцы Дзімітрава, ля таго месца, дзе яшчэ нядаўна, у будынку былой сінагогі, знаходзіліся майстэрні Саюза мастакоў, адбыўся перформанс «Не дазволена цэнзурай». Яго арганізавалі некалькі мастакоў і праваабарончы цэнтр «Вясна».*

На агароджы вакол новабудоўлі мастакі вывесілі мастацкія творы, якія зазнавалі цэнзуру ў апошнія гады. Сярод іх, у прыватнасці, былі працы з выявай нацыянальнага гербу «Пагоня», шаржы на высокапастаўленых чыноўнікаў, кніга паэта Эдуарда Акуліна «Радно». Акцыю праводзіў вядомы мастак Аляксандр Пушкін. Ён быў апрануты ў чорны балахон інквізітара, абвешаны жалезнымі ланцугамі і сушанымі воблямі. Гэтыя атрыбуты сімвалізавалі інквізіцыйную сутнасць цэнзуры і вынікі яе дзейнасці — высушанае жыццё. «Сённяшні дзень — дзень абароны правоў чалавека. І мы, мастакі, разумеем гэтае права як права мастака на свабоду творчасці», — заявіў Аляксандр Пушкін, звяртаючыся да прысутных. А мастацтвазнаўца, культуролаг Сяргей Харэўскі расказаў пра гісторыю цэнзуры ў Беларусі ад часоў Адраджэння да сённяшняга дня.









Пасля перформансу ўсе працы перавезлі ў выставачную залю галерэі «Золата». Тут адкрылася 10-дзённая выстава «Не дазволена цэнзурай».

Як паведаміў на адкрыцці выставы кіраўнік ПЦ «Вясна» Алесь Бяляцкі, арганізатары гэтай культурнай акцыі хацелі паказаць, «якім чынам у Беларусі не выконваюцца правы чалавека і як гэта адбіваецца на лёсе мастакоў, пісьменнікаў і іншых». Бяляцкі таксама адзначыў, што на выставе прадстаўлены кнігі, пушчаныя на макулатуру, эскізы роспісаў, якія не пабачылі свету, карціны, знятыя з выставаў.

Галоўны рэжысёр студыі «Вольная сцэна» Саюза тэатральных дзеячаў Валерый Мазынскі расказаў пра цэнзуру, якую зазнаў асабіста ён. Так, спектакль па п'есе Аляксея Дударава «Прынц Мамабук», дзе праводзіліся аналогіі з цяперашняй Беларуссю, хоць і не сталі забараняць афіцыйна, але стварылі такія ўмовы, пры якіх Мазынскі змушаны быў пайсці з тэатру.

Паказальна, што многія працы, прадстаўленыя на выставе, належаць пэндзлю Алеся Пушкіна, які не раз прыцягваў увагу грамадскасці да сваёй асобы неардынарнымі перформансамі. Да прыкладу, карціна Пушкіна «Плавільшчыкі расы» была забаронена, калі падчас выставы «Жанчыны ў творчасці А.Пушкіна» (1996) дырэктарка віцебскай філармоніі, дзе праходзіла выстава, запатрабавала зняць гэты твор «за празмерны эратызм».

У цяперашняй экспазіцыі прадстаўлена таксама праца скульптара Міхаіла Інькова — помнік паэтцы Ларысе Геніюш (1991), забаронены ўладамі з той матывіроўкай, што «Ларыса Геніюш не рэабілітавана». Прадстаўлены на выставе і герб «Пагоня» — эталон, створаны Уладзімірам Крукоўскім і Яўгенам Кулікам у 1991 годзе і адменены ў выніку рэферэндуму ў 1995 годзе. Наведнікі галерэі могуць убачыць і зборнік вершаў «Радно» вядомага паэта-барда Эдуарда Акуліна, наклад якога адразу, як толькі надрукавалі, тут жа пусцілі пад нож на макулатуру. Пытанні, у прыватнасці, выклікаў верш «Паэт», прысвечаны Нілу Гілевічу, які ўспрынялі як палітычную крамолу. Аднак у афіцыйным акце знішчэння кнігі прычына называлася не палітычная, а тэхнічная — «у сувязі з няправільным афармленнем».

**БелаПАН,**
**фота Ул.ШЛАПАКА**

# Рэжысёра выпусцілі на волю

*Абвінавачаны ў крадзяжы ўласнага фільма рэжысёр «Беларусьфільму» Руслан Зголіч вызвалены з міліцэйскага пастарунку. Зголіч збіраецца скардзіцца на міліцыянтаў і патрабуе ад міністэрства культуры праверкі выдаткавання фінансавых сродкаў на кінастудыі «Беларусьфільм».*

Выйшаў на волю рэжысёр «Беларусьфільму» Руслан Зголіч, імя якога стала шырока вядома пасля арышту па падазрэнні ў крадзяжы свайго ж фільму. Праўда, абвінавачанне ў крадзяжы стужкі з яго не знятае, толькі зменена мера стрымання – у Зголіча ўзялі падпіску аб нявыездзе. Гэтыя абвінавачанні Зголіч называе абсурднымі.

Апрача таго, супраць яго распачалі адміністрацыйную справу за хуліганства – ён быццам бы разбіў шкло, калі яго затрымлівалі, што рэжысёр збольшага прызнае. І усё ж ён не збіраецца прасіць чакаць. На міліцыянтаў з Першамайскага райаддзелу міліцыі, якія збівалі яго ў пастарунку, рэжысёр плануе падаваць скаргу ў пракуратуру, але галоўная барацьба для яго – з кінастудыяй «Беларусьфільм».

Рэжысёр ужо запатрабаваў ад міністэрства культуры праверыць выдаткаванне фінансаў, выдзеленых на фільм «Госці», які ён здымаў. Зголіч падазрае, што некаторыя кіраўнікі на «Беларусьфільме» скралі частку грошай.

(Зголіч: ) «Таго ж Аляксандра Рыгоравіча падманулі на нашай здымачнай пляцоўцы, калі ён прыходзіў на «Беларусьфільм». Яму сказалі, што тут здымаюць беларускую стужку «Госці», і потым пра гэта казалі ў рэпартажы. А на самой справе там здымалі расійскую стужку «Закон». Атрымалася недарэчнасць, што ніякага «Закону» няма і ніякіх «Гасцей». Другім падманам было тое, што паказалі вялізную камеру «Арэфлекс 5». Спецыялісты ведаюць, што гэта вельмі дарагая камера, яна каштуе амаль паўмільёна даляраў – якраз на тыя грошы яе набылі, што Лукашэнка даў на падтрымку «Беларусьфільму». Дык вось на гэтай камеры працуюць на «Беларусьфільме», але на ёй не здымаюцца беларускія карціны. На той момант, калі ішлі гэтыя рэпартажы і казалі, што малады рэжысёр Руслан Зголіч здымае свой фільм на самай сучаснай камеры, мы на самой справе не знялі на ёй аніводнага кадру. Гэта ізноў была хлусня».

Руслан Зголіч сцвярджае, што на «Беларусьфільме» перавагай карыстаюцца замоўцы расійскіх дый заходніх фільмаў, а нацыянальнае кіно, паводле яго, занядбана.

«Замежнікам аддаюцца павільёны, найлепшая апаратура, а свае кадры нічога не маюць», – сцвярджае Зголіч і заяўляе, што без рэфармавання «Беларусьфільму» нацыянальнае кіно ў Беларусі не адродзіцца. Ён у гэтым яшчэ раз пераканаўся на досведзе асабістага канфлікту з кіраўніцтвам кінастудыі, якое, ён не выключае, нацкавала на яго міліцыянтаў.

На «Беларусьфільме» па-ранейшаму адмаўляюцца каментаваць гісторыю з затрыманнем маладога рэжысёра. Тым часам аператар і рэдактар фільму «Госці» ўзяліся самі за яго мантаж. Рэжысёр Зголіч супраць гэтага пратэстуе, бо лічыць, што «якасць унікальнай карціны будзе недапушчальна зніжана».

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**
**Радыё «Свабода»**

## Спецкамбінат працягвае зачыстку

Незарэгістраванае маладзёжнае аб'яднанне «Еўрапейскі шлях» звяртае ўвагу грамадскасці на працяг разбурэння гісторыка-архітэктурнага помніка Мінска — Кальварыйскіх могілак.

Як паведаміў БелаПАНу адзін з кіраўнікоў гэтага аб'яднання моладзі Аляксей Фралоў, 9 снежня дзесяткі актывістаў «Еўрапейскага шляху» наведалі могілкі і ўбачылі, што на іх тэрыторыі з'явіліся новыя пахаванні, датаваныя 6 і 7 снежня. «Гэта адбылося нягледзячы на тое, што 27 лістапада 2001 года на пасяджэнні навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь комплексу мемарыяльных Кальварыйскіх могілак быў нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці катэгорыі «адзін» — як аб'екту міжнароднага значэння — з уключэннем у дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Такім чынам, згодна з законам, могілкі з'яўляюцца закрытымі для пахаванняў», — сказаў Фралоў.

Таму неабходны грамадзянскі кантроль за збераджэннем і аднаўленнем гэтага часткова разбуранага помніка гісторыі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

**РАКУРС**

## Выстава кітабаў у Акадэміі навук

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук адкрылася выстава рукапісных кніг беларускіх татараў 17-20 стагоддзяў. Многія з гэтых кітабаў пісаныя ў тым ліку і беларускай мовай.

Татары жывуць на тэрыторыі Беларусі ўжо 600 гадоў – ад часоў Вітаўта. Калісьці іх было тут каля 100 тысяч, яны мелі паўсотні мячэцяў. На сёння, паводле перапісу 1999 году, у Беларусі жыве 10,8 тысячы татараў, дзейнічаюць 7 мячэцяў.

**Арлан АХМАТОВІЧ**

## Першы «чатырохзоркавы»

На сёння ў Беларусі няма аніводнага ні «пяцізоркавага», ні хоць бы «чатырохзоркавага» гатэлю. Гэта ёсць адной са шматлікіх прычынаў, што замежныя турысты знаходзяцца ў Беларусі ў сярэднім нават меней за два дні.

Але ўвесну наступнага году ў нашай краіне ўсё ж такі з'явіцца першая чатыры «зоркі». Гэта стане магчымым пасля рэканструкцыі гатэлю «Мінск», што размяшчаецца ў цэнтры сталіцы на выездзе з плошчы Незалежнасці на праспект Скарыны. Не выключана, праўда, што ўвядзенне гатэлю ў эксплуатацыю можа крыху зацягнуцца. Рэч у тым, што падчас рэканструкцыйных работ высветлілася, што будынак канца 50-ых мінулага стагоддзя асядае з-за блізкасці метро.

Рэканструкцыя каштуе два дзесяткі мільёнаў даляраў. Іх выдзеліла турэцкая фірма. Мяркуецца, што гэтыя выдаткі будуць акупленыя ўжо цягам трохчатырох гадоў. Гэта значыць, што гасцінічных паслуг тут штодня будзе аказвацца на болей як 15 тысяч даляраў. Кошты на нумары ў залежнасці ад камфартабельнасці будуць вагацца ад 90 да 150 даляраў, куды ўвойдуць сняданак і паход у лазню. У кожным нумары будзе ўсталяваны тэлефон з дазвонам у любы кутак свету і нават доступ у інтэрнэт. Гатэль збольшага зарыентаваны на бізнесоўцаў. Яно і слушна, бо ў Беларусь ва ўмовах заняпаду турыстычнай галіны прыязджаюць звычайна па бізнесовых справах.

Рэканструкцыя гасцінічнага комплексу прадугледжвае ўцяпленне сценаў, пабудову паркінгу ў двары, аўтаномнай электрастанцыі, тут будуць некалькі рэстарацыяў і бараў, а таксама казіно. Рэканструяваны «Мінск» стане першым беларускім гатэлем са зручнасцямі для інвалідаў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

